І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Снежань 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Рэйтынг: самыя беларускамоўныя футбольныя клубы




стар. 7

**Класны кіраўнік пра хлопца з Кармы, што загінуў за Іісламскую Дзяржаву**

стар. 1

**У Гомелі свойскі сабака пакусаў дзвюх п'яных дзяўчын, адна трапіла ў рэанімацыю**

стар. 5

**Бел-чырвона-белыя стужкі на сайце Гомельскай праваслаўнай епархіі**

стар. 6

# Класны кіраўнік пра хлопца з Кармы, што загінуў за Ісламскую Дзяржаву: Добры хлопец, толькі сям'я нешчаслівая

***Пра забойства 33-гадовага гродзенца Дзяніса Васільева паведамілі курды на сайце Kurdish daily news, апублікаваўшы фатаграфіі яго дакументаў і банкаўскіх картак.***

Увагу прыцягнула напісанне імя і прозвішча лацінкай з беларускай мовы. Хоць самі дакументы аўстрыйскія. На адной з картак значыцца права на пражыванне і працу ў горадзе Брэгенц, на іншых дакументах бачная дата нараджэння — 9 жніўня 1982 года, і месца нараджэння: Беларусь, Гродна.

Вядома, што Дзяніс Васільеў даўно з'ехаў у Аўстрыю, атрымаў прытулак у гэтай краіне каля 10 гадоў таму.

— Ён даўно не жыве ў Беларусі. Але ў Гродна ён прыязджаў, быў аформлены афіцыйны выезд на ПМЖ у Аўстрыю. Гэта здарылася яшчэ ў 2011 годзе. Ужо тады ў Дзяніса Васільева была такая запамінальная барада, вонкава падобны на ісламістаў, — распавяла крыніца kp.by.

Дзяніс сапраўды гродзенец — нарадзіўся ў гэтым горадзе і ў апошні час прыязджаў дадому. Але школьныя гады правёў у невялікім горадзе ў Гомельскай вобласці.

— Ён прыйшоў у нашу школу ў 6-м класе, — распавяла kp.by Вера Іванаўна, класны кіраўнік Дзяніса Васільева. — Яны прыехалі з маці з Гродна. Хлопчык вучыўся добра, асабліва яму падабаліся мова і літаратура. З дзецьмі сябраваў, нармальны хлопчык. Але сям'я нешчаслівая — маці выпівала, пра бацьку нічога не ведаю.

— Ведаеце, чым займаўся Дзяніс пасля заканчэння школы?

— Ведаю, што ён паехаў досыць даўно на Захад. Я бачыла яго фота на фоне гор. На школьныя сустрэчы ніколі не прыходзіў. Хлопчыкі казалі, што падарожнічае, за мяжой. І маці казала гэтак жа. Чула, што добра уладкаваўся, дасылаў маці грошы. Нічога дрэннага пра яго не скажу.




Суседзі ў Гродне: «Ветлівы, ветлы, заўсёды вітаўся»

Непрыкметныя пяціпавярхоўкі знаходзяцца ў адным са спальных раёнаў Гродна. Менавіта тут жыў Дзяніс Васільеў. У кватэры, якую ён некалькі гадоў таму здымаў на вуліцы Пралетарскай, цяпер жывуць іншыя людзі. Яны нічога пра папярэдніх кватарантаў не ведаюць. Аднак суседзі адразу ж апазналі па апісанні маладога чалавека.

— Так, жыў у нашым доме некалькі гадоў. Быў ветлівым, прыязным, заўсёды вітаўся. Калі трэба было нешта дапамагчы, ніколі не адмаўляўся. Тут жа ў пад'ездзе шмат старых жыве — ім пастаянна патрэбна нейкая дапамога.

Дзяніс запомніўся жыхарам хрушчоўкі сваёй барадой і тым, што перыядычна ганяў на матацыкле побач з домам. Малады чалавек жыў не адзін, а разам з дзяўчынай. Дзяцей у іх не было.

Як кажуць суседзі, у кастрычніку 2014 ён канчаткова з'ехаў са здымнай кватэры і больш тут не з'яўляўся.

У мусульманскай суполцы Гродна пра Васільева нічога не ведаюць

— У Гродне нас мала, і мы практычна ўсе адзін аднаго ведаем. У нашым коле Дзяніс не з'яўляўся. Візуальна мы такога чалавека не ўзгадваем, а яго прозвішча ў нашых размовах ні разу не згадвалася. Цалкам магчыма, што малады чалавек прыняў іслам, ужо будучы за мяжой, — адзначылі ў мусульманскай суполцы Гродна.

*Ірына Козлік, Вольга Камягіна, kp.by*

# Паводле неафіцыйнай інфармацыі, затрыманыя першы намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама і гендырэктар Гомельскага мясакамбіната

***Паводле неафіцыйнай інфармацыі, супрацоўнікамі КДБ затрыманы першы намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Максіменка, генеральны дырэктар ААТ «Гомельскі мясакамбінат» Рычард Стэфановіч і іншыя службовыя асобы. Затрыманне звязана з махінацыямі з мясам.***

Пакуль праваахоўныя органы не каментуюць затрыманне. У прыёмнай першага намесніка старшыні аблвыканкама адказваюць, што Аляксандр Максіменка ў камандзіроўцы і будзе на месцы на наступным тыдні. Інфармацыю пра затрыманне сакратар назвала чуткамі. У прыёмнай мясакамбіната адказалі, што Рычард Стэфановіч будзе на працы ў панядзелак.

У маі 2014 года СК затрымаў у Гомелі па падазрэнні ва ўчыненні шэрагу карупцыйных злачынстваў першага намесніка старшыні аблвыканкама Віктара Банчука і намесніка аблвыканкама Віктара Трызну. Зараз у дачыненні да іх Магілёўскі абласны суд разглядае крымінальную справу. Злачынствы, якія інкрымінуюцца ім, таксама звязаныя з махінацыямі з мясам, якое прадавалася ў Расію без перадаплаты, і мясакамбінаты Гомельскай вобласці панеслі страты. Намеснік старшыні аблвыканкама лабіраваў інтарэсы свайго сына і расійскіх камерцыйных структур.

На пасаду новага першага намесніка старшыні замест Віктара Банчука пасля яго затрымання быў прызначаны Аляксандр Максіменка.

Гомельскі мясакамбінат не першы раз трапляе ў карупцыйныя скандалы. Так, у 2012 годзе трапіў пад крымінальны пераслед генеральны дырэктар мясакамбіната і яшчэ 28 чалавек. Яны абвінавачваліся ў крадзяжы мясной прадукцыі. Па справе праходзілі 29 чалавек — ад генеральнага дырэктара да забойшчыка жывёлы. Крымінальныя справы былі распачатыя, у прыватнасці, у дачыненні да начальнікаў цэхаў, эканамістаў, намеснікаў дырэктара, загадчыкаў сталовай і магазінам, а таксама трох міліцыянераў.

Былы дырэктар, які ўзначальваў прадпрыемства з 1989 года, абвінавачваўся ў стварэнні арганізаванай групы для ўчынення злачынстваў. Абвінавачваныя атрымалі розныя тэрміны пазбаўлення волі.

*БелаПАН*

# Кіраўнік сельгаспрадпрыемства Гомельшчыны асуджаны на тры гады за збіванне падначаленых

***30 лістапада суд Светлагорскага раёна прыгаварыў кіраўніка аднаго з сельскагаспадарчых прадпрыемстваў (ён выконваў на момант злачынства абавязкі дырэктара КСУП) да трох гадоў пазбаўлення волі.***

Ён асуджаны па частцы 3 артыкула 426 КК (наўмыснае ўчыненне службовай асобай дзеянняў, якія яўна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных яму па службе, звязанае з насіллем). Адбываць пакаранне кіраўнік будзе ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прыгавор не набыў законную моц і можа быць абскарджаны або апратэставаны.

Як паведаміла прэс-сакратар Гомельскага абласнога суда Наталля Пугачова, кіраўнік абвінавачваўся ў тым, што збіваў падначаленых. Так, у кастрычніку 2014 года да яго звярнуўся заатэхнік з просьбай падпісаць заяву аб звальненні ў парадку пераводу. Але кіраўнік разлаваўся і збіў падначаленага. Як ён потым растлумачыў, у выхаваўчых мэтах.

У сакавіку 2015 года кіраўніку паступіла інфармацыя, што нібыта трактарыст зліў дызельнае паліва. На момант сустрэчы з трактарыстам, паводле слоў абвінавачванага, падначалены знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Каб правучыць трактарыста, кіраўнік ударыў яго па твары.

Пацярпелыя грамадзянскіх іскаў аб кампенсацыі матэрыяльнага ці маральнага ўрону не падавалі.

*БелаПАН*



# Жыхар Рэчыцы адмаўляе арганізацыю забойства жонкі за $5 тысяч, выканаўца — прызнаецца

***Гомельскі абласны суд на выязным пасяджэнні ў Рэчыцы 30 лістапада пачаў разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да двух мясцовых жыхароў, якія абвінавачваюцца ў арганізацыі і забойстве 34-гадовай жанчыны.***

Абвінавачаны ў арганізацыі забойства жанчыны — яе муж 1969 года нараджэння, выканаўца — брат першай жонкі замоўцы. Жанчына, якая знаходзілася ў дэкрэтным адпачынку па доглядзе дзіцяці (яе сыну на момант забойства было два гады), была забітая ў двары свайго дома 16 красавіка. Яна памерла ад вострай страты крыві, ахвяры было нанесена 14 удараў нажом у вобласць шыі, грудной клеткі, унутраных органаў.

Згодна з абвінавачаннем мужчына прыняў рашэнне забіць жонку ў 2014 годзе «з мэтай далейшага матэрыяльнага абагачэння і з мэтай завалодаць домам». Учыніць злачынства ён прапанаваў знаёмаму — брату яго першай жонкі. Той згадзіўся пайсці на злачынства за 5 тысяч даляраў. Разам з замоўцам быў распрацаваны план злачынства, які абвінавачаныя спрабавалі рэалізаваць 9 красавіка. «Віктар паехаў у гэты дзень ва Украіну, мне аддаў ключы ад брамкі дома. Я павінен быў пачакаць, пакуль іх дачка пойдзе ў школу, прыблізна а восьмай раніцы, і ўчыніць забойства Веранікі. Я чакаў, але дзяўчынка ў школу не пайшла, і я пайшоў дамоў», — растлумачыў на судзе выканаўца.

Паводле слоў абвінавачанага, забойства «перанеслі» на 16 красавіка. Выканаўца дачакаўся, пакуль дзяўчынка пойдзе ў школу, замоўца таксама паехаў па справах, даўшы сігнал фарамі аўтамабіля абвінавачанаму. Той зайшоў у двор, пастукаў у акно, назваўся работнікам газавай службы і папрасіў паказаць лічыльнік, які быў за домам. Там ён накінуўся на ахвяру з нажом і забіў. Каб зымітаваць абрабаванне, сарваў з шыі залаты ланцужок і з рукі — залаты бранзалет. Абвінавачаны зайшоў у дом, дзе ў гэты час было двухгадовае дзіця, і раскідаў рэчы, каб «заблытаць сляды» і імітаваць рабаванне.

Затым замоўца сустрэўся ў вёсцы Броннае з выканаўцам, перадаў тысячу даляраў і даў абяцанне астатнюю суму аддаць пазней.

Выканаўца забойства працаваў у рытуальнай службе і на другі дзень пасля забойства дастаўляў труну з целам забітай сваякам. «Што я адчуваў? Чаму я павінен штосьці адчуваць? Гэта мая праца», — адказаў абвінавачаны на пытанне пацярпелай, маці забітай.

Выканаўцу забойства выстаўленае абвінавачанне на падставе артыкулаў Крымінальнага кодэкса «Забойства, учыненае з асаблівай жорсткасцю, з карыслівых меркаванняў, паводле найму» і «Крадзеж». Віну ён прызнае часткова і не прызнае, што забіваў з асаблівай жорсткасцю. «Я, можа, і жорстка дзейнічаў, але пакуты, як зачыталі ў абвінавачанні, я ёй не хацеў прычыняць», — сказаў выканаўца. Адмаўляе ён і крадзеж, таму што, паводле яго слоў, залатыя вырабы ён не прысвоіў, а выкінуў.

Дзеянні мужа пацярпелай кваліфікаваныя следствам на падставе артыкула Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя забойства з карыслівых меркаванняў, паводле найму». Ён поўнасцю не прызнае сваю віну.

*БелаПАН*

Зламацца можа ўсё на свеце
Жыццё, пачуцці, людзі, прас
Вось асаблива прас засмуціў
Вось не чакаў я ад яго

# Рэчыца засталася без вады

***У нядзелю ў горадзе Рэчыца Гомельскай вобласці прапала вада — і халодная, і гарачая. Прычынай гэтага стала аварыя на каналізацыйным калектары. Увесь дзень ішлі аднаўленчыя работы на вуліцы Маладзёжнай ў раёне крамы «Будматэрыялы».***

«Для 70-тысячнай Рэчыцы гэта надзвычайнае здарэнне», — піша нам чытач «Нашай Нівы» Валер.

Ён звяртае ўвагу, што мясцовыя СМІ не паведамілі толкам, куды прыязджаюць машыны з пітной вадой, ад гэтага месцічы нервуюцца.

*nn.by*



Сынку, як зьедзеш, пакінь кату паболей вады...

# У Гомелі свойскі сабака пакусаў дзвюх п'яных дзяўчын, адна трапіла ў рэанімацыю

***У Гомелі амерыканскі стафардшырскі тэр'ер (гэтая парода занесеная ў спіс патэнцыйна небяспечных сабак) пакусаў дзвюх дзяўчын.***

Інцыдэнт адбыўся на мінулых выходных у кватэры аднаго з дамоў, размешчаных у Цэнтральным раёне горада.

Як паведаміў начальнік прэс-службы УУС Гомельскага аблвыканкама Андрэй Мазепін, 22-гадовая дзяўчына сустрэлася на вуліцы са сваім знаёмым, які гуляў з сабакам. Прыяцелька папрасіла хлопца даць ёй гадаванца на час, каб пагуляць. Малады чалавек пагадзіўся, і дзяўчына прывяла сабаку, які быў у намордніку, да сябе дадому.




Увечары да гамяльчанкі зайшла 21-гадовая сяброўка, паводле папярэдняй інфармацыі, разам яны ўжывалі спіртное. Каля гадзіны ночы дзяўчаты знялі з сабакі наморднік і гулялі з ім, але ў нейкі момант жывёла накінулася на адну з іх. Другая ў гэты час спрабавала адцягнуць сабаку ад сяброўкі, і тады жывёла напала на яе.

У выніку гаспадыня кватэры змагла выбегчы на балкон і выклікаць міліцыю. Да месца здарэння таксама прыбылі работнікі МНС і службы адлову бадзяжных жывёл. Ратавальнікі ўзламалі дзверы ў кватэру і злавілі сабаку спецыяльным сачком. Сабаку, якому 2,5 года, усыпілі і адвезлі ў гадавальнік, дзе за ім дзесяць дзён будуць назіраць на прадмет выяўлення прыкмет шаленства.

Гаспадыня кватэры атрымала ўкусы рукі, а 21-гадовую пацярпелую хуткая дапамога даставіла у рэанімацыю з ранамі рук, галёнкі і перадпперадплечча. Пазней дзяўчыну перавялі ў хірургічнае аддзяленне.

*БелаПАН*

# У Гомельскім раёне пенсіянера загрызла зграя бадзяжных сабак

***Гомельскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку па факце гібелі 64-гадовага жыхара вёскі Цагельня Гомельскага раёна. Яго цела было знойдзенае раніцай 3 снежня ў лесапаласе за населеным пунктам з ірванымі ранамі на шыі і ў вобласці перадплечча.***

Паводле папярэдняй інфармацыі, смерць мужчыны наступіла ад вялікай страты крыві ў выніку пашкоджання буйных крывяносных сасудаў.

Як паведаміў намеснік пракурора Гомельскага раёна Аляксандр Шынкароў, цяпер праводзіцца гісталагічнае даследаванне, па выніках якога будзе названая дакладная прычына смерці. Пенсіянер працаваў вартаўніком, і, як мяркуецца, пры вяртанні дамоў са змены на яго напала зграя бадзяжных сабак.

Пракуратура ўжо выдала прадпісанні службам «Спецкамунтранса» і «Райжылкамгаса» зрабіць захады па адлове зграі сабак. Таксама ў мясцовую арганізацыю Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў накіраванае хадайніцтва аб прыняцці мер па адстрэле небяспечных жывёл.

*БелаПАН*

# Бел-чырвона-белыя стужкі на сайце Гомельскай праваслаўнай епархіі.

***Афіцыйны сайт Гомельскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Eparhiya.by чамусьці вядзецца выключна на расейскай мове, праўда, выкарыстоўвае бел-чырвона-белую сімволіку.***

«Хоць беларускай версіі сайт і не мае, але лога добрае», – актывіст Ігар Случак скаментаваў у «Фэйсбуку» лагатып праваслаўнай інтэрнэт-старонкі, у якім герб епархіі з двух бакоў атачаюць бел-чырвона-белыя стужкі.

Нядаўна праваслаўны святар з Менску Аляксандр Шрамко заўважыў у інтэрв'ю сайту Kyky.org, што герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг больш блізкія Царкве, чымся сучасныя афіцыйныя сімвалы Беларусі.

«А «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг маюць царкоўнае паходжанне. Звярніце ўвагу: на гербе патрыярха ёсць стужачка бел-чырвона-белага колераў. Аблямоўка на вопратцы епіскапа таксама бел-чырвона-белая. Усё гэта сімвалізуе кроў Хрыста, чысціню, святасць. А на «Пагоні» наагул намаляваны крыж. Думкі не можа быць, што для Царквы гэтыя сімвалы бліжэйшыя», – адзначыў святар.

У той жа час на сайце Гомельскай епархіі зусім адсутнічае беларуская мова – навінаў, малітваў або фрагментаў Святога Пісання на роднай мове беларусы тут не знойдуць. Нельга дашукацца беларускай мовы таксама на афіцыйным сайце Беларускай Праваслаўнай Царквы Church.by – па-беларуску там няма ні слова. Аднак афіцыйны сайт Маскоўскага патрыярхату Patriarchia.ru мае ўкраінскую і малдаўскую моўныя версіі.

*belsat.eu*



# У Гомелі шукаюць ахвяр махляркі-варажбіткі

***Гомельскі гарадскі аддзел Следчага камітэта расследуе крымінальную справу ў дачыненні да 31-гадовай жанчыны, падазраванай у махлярстве, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.***

4 снежня падазраваная пад маркай прашэння міласціны зайшла ў кватэру жыхаркі Гомеля. Жанчына прапанавала гаспадыні кватэры «паваражыць» і «зняць сурокі», перараканаўшы яе ў неабходнасці аддаць для гэтага на час тры залатыя пярсцёнкі, камплект пасцельнай бялізны і два махровыя ручнікі. Праз два дні нібыта для далейшага «зняцця псуты» падазраваная завалодала залатымі крыжыкам і ланцужком пацярпелай. Падчас другога візіту «варажбітка» таксама перараканала гамяльчанку за 500 тысяч рублёў набыць «загавораны» фрагмент расліны.

Калі пацярпелая ўсвядоміла, што стала ахвярай злачынства, звярнулася ў міліцыю. У следства ёсць падставы меркаваць, што ад супрацьпраўных дзеянняў падазраванай маглі пацярпець і іншыя асобы. Ім рэкамендуецца неадкладна звярнуцца ў Гомельскі гарадскі аддзел Следчага камітэта.

*БелаПАН*




## ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# "Гомель" увайшоў у тройку самых беларускамоўных клубаў краіны.

На сённяшні дзень рэйтынг-2015 узначальвае мінскае "Дынама" — у яго 29 ачкоў. На 2-м месцы з адставаннем толькі ў 1 пункт ідзе наш клуб. У параўнанні з рэйтынгам-2014 "Гомель" узняўся з 4-га месца: у мінулым годзе клуб набраў 17 ачкоў.

*fcgomel.by*

Мужчыны ў 26 гуляюць у футбол,
Мужчыны ў 40 гуляюць у тэніс,
Мужчыны ў 60 гуляюць у гольф,
Заўважце, чым старэйшымі вы становіцеся, тым меншымі становяцца вашыя мячыкі.

# Рэйтынг: самыя беларускамоўныя футбольныя клубы

***Афіцыйнае закрыццё футбольнага сезону адбудзецца ў Менску 11 снежня, а самыя беларускамоўныя футбольныя клубы ёсць магчымасць назваць ужо сёння. Штогод такі рэйтынг складае каардынатар грамадзянскай кампаніі "Справаводства па-беларуску" Ігар Случак:***

– Першае месца знялі "тарпедаўцы" з Менску. Яны набралі 45 ачкоў з 60-ці магчымых. На другім месцы "Дынама" (Менск) з 30-цю ачкамі. На трэцім – "Гомель" з 28-ю. Затым "Белшына" (25), "Тарпеда-БелАЗ" (23), "Нёман" (20). І сёмае месца ў "Крумкачоў" (17).

Трэба адзначыць, што у параўнанні з мінулагоднім рэйтынгам значны прарыў у выкарыстанні беларускай мовы зрабіў клуб "Дынама" (Менск) – летась у менскіх дынамаўцаў было толькі 11 ачкоў і 7-е выніковае месца. Цяпер яны атрымалі 30 ачкоў і занялі 2-е месца. Лідар беларускага футболу клуб „БАТЭ" (Барысаў) у гэтым рэйтынгу займае толькі 10-е месца з 7-ю ачкамі. Як вызначаюцца ачкі пры складанні гэтага рэйтынгу можна паглядзець тут.



*Беларускае Радыё Рацыя*

# Лепшыя -2015: беларускамоўны ЯНУШ і калектыўны БАТЭ

***Давялося пабываць на закрыцці футбольнага сезону - 2015 - раней на подобных спартовых мерапрыемствах, здаецца, бываць не даводзілася.***

Усе, акрамя 5-ці ўзнагарод забраў БАТЭ. Адна статуэтка дасталася МФК "Сталіца", яшчэ адна "Слуцку" і 3 атрымаў "Шахцёр" у асобе Мікалая Януша. Крыху дзіўна выглядае тое, што Дынама-Мінск, што заняў 2-е месца ў чэмпіянаце не быў ўганараваны хоць бы ў адной намінацыі.

Таксама чамусці ў гэтым годзе не ўзнагароджваліся лепшыя пляжныя футбалісты і прадстаўніцы жаночага футболу.

Магчыма, у будучым, трэба больш надаваць увагі і клубам, што гуляюць у 1-й і 2-й лізе - там ёсць на што паглядзець, а некаторыя каманды, гульцы і трэнеры больш прафесійныя, чым іх калегі з Вышэйшай лігі.

Унёс бы таксама прапановы па музыкальным перапынкам - падаецца, не лепш бы іх займала з нагоды афіцыйнага закрыцця сезону традыцыйная класічная музыка, як напрыклад было на ўручэнні Нобелеўскай прыміі за дзень да "Зорнага мяча - 2015". Мне падаецца, што акрабаты, барныя кавербанды, баяністкі і ложкары (Навіцкі асобна заўважыў, што ў сярэдзіне слова літара "Ж"). Узгадваючы Навіцкага адзначу, што ён быў як традыцыйны Навіцкі - з усім наборам, як ён умее ў тэлетрансляцыях.

Узгадваючы Нобелеўскую прэмію, то тое, што мы не пачулі ад нашага гонару, уладальніцы Нобеля па літаратуры Святланы Алексіевіч, пачулі мы ад лепшага бамбардзіра і нападаючага, самага карыснага гульца Беларусі Мікалая Януша. Пачулі мы ад яго прамову па-беларуску - Мікалай быў адзіным беларускамоўным ва ўсёй цырымоніі ўзнагароджвання, за што яму вялікая падзяка: лепшы ў футболе - лепшы ва ўсім. Сапраўдны беларус.

А наогул, усё файна было, мне спадабалася.

Што карыснага я вынес з цырымоніі? Мяшок падарункаў.

Файныя кнігі па статыстыцы за 2014 і 2015 год і афіцыйны беларускамоўны каляндар АБФФ на 2016 год. Файна, што федэрацыя працягвае павялічваць ужыванне беларускай мовы. Асабліва парадвала, што каляндар без лацінізмаў, толькі беларускія назвы месяцаў, ніякіх маяў, толькі травень. Румас яшчэ казаў, што кожны прысутны атрымае па першаму асобніку новага журнала "Вялікі футбол", але ў пакунку яго не было - відаць трэба пачакаць да студня, калі адбудзецца яго афіцыйны выхад у шырокі футбольны свет.

*Ігар Случак*

# Двое гамельчукоў, якія без дазволу ўладаў арганізавалі пляжную вечарыну, атрымалі вялікія штрафы

***Гісторыя адбылася гэтым летам на возеры «Валодзькава». Двое мужчын (27 і 28 гадоў) вырашылі зладзіць вечарыну ля вады. Запрашэнні сваім сябрам і знаёмым разаслалі праз сацсеткі. У выніку на начное мерапрыемства сабралося каля 30 чалавек, якія прыехалі на асабістых аўто.***

Проста на беразе ўсталявалі пераносныя калонкі, якія падключылі да ноўтбука. Спецыяльна для танцпляца «арганізатары» нават скасілі траву.

У гэты ж самы час на гэтым жа самым беразе праходзіла іншае мерапрыемства — фестываль па спартыўнай лоўлі рыбы спінінгам «Фаварыт Фішынг Фэст», у якім бралі ўдзел амаль 60 чалавек. Яго арганізатар — Гомельскі рыбалоўны клуб — дазвол на правядзення фестывалю атрымаў. Для рыбакоў паставілі нават гандлёвы фургончык, дзе па дамоўленасці напоі і ежу куплялі таксама і начныя тусоўшчыкі.

Магчыма, танцы пад месяцам так і засталіся б незаўважанымі, калі б не гучная музыка. Яе чулі нават на другім беразе возера. Як распавяла старшы памочнік пракурора Гомеля Яўгена Маркавец, чацвёра гамельчукоў той ноччу нават тэлефанавалі ў міліцыю і скардзіліся на вечарыну. Аднак вартавыя парадку адразу знайсці актыўных адпачывальнікаў не змаглі. Але ў выніку за парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў кожнага гора-дыджэя суд аштрафаваў на 20 базавых велічынь. Дарэчы, па гэтым жа артыкуле (23.34 Адміністрацыйнага кодэкса РБ) у вобласці з пачатку года аштрафаваныя 11 чалавек, яшчэ тром вынесена папярэджанне.

А як па законе?

Арганізатару масавага мерапрыемства не пазней чым за 15 дзён неабходна падаць заяву ў мясцовы выканаўчы і распарадчы орган. У заяве паказаць дату правядзення, меркаваную колькасць удзельнікаў, звесткі пра арганізатараў, а таксама меры, якія будуць прынятыя па ахове грамадскага парадку, медыцынскім абслугоўванні і ўборцы тэрыторыі пасля мерапрыемства. Адказ аб дазволе або забароне (з указаннем прычын) павінен прыйсці ў пісьмовым выглядзе не пазней, чым за 5 дзён да даты правядзення масавага мерапрыемства.

*gp.by*




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Снежань 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA